*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

470 Сакавік 2002 г. Год выданьня 52

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

# ВІНШУЕМ БЕЛАРУСАЎ З 84-мі ЎГОДКАМІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ!

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### *ПРЭЗЫДЫЮМ*

*Дарагія суродзічы!*

*Вітаю Вас з Днём 25-га Сакавіка, нашым вялікім нацыянальным сьвятам, якое Вы называеце Днём Волі, а мы тут, на чужыне, называем Днём Незалежнасьці.*

*Усе мы ведаем, што народ наш сёньня ня ёсьць вольным. Ці-ж можна гаварыць аб волі, калі людзі зьнікаюць за тое, што думаюць інакш як улады; калі закрываюцца незалежныя газэты ды арыштоўваюцца прадпрымальнікі за прыдуманыя праступствы, калі штрафуюць ды зьбіваюць нашую моладзь за тое, што яна дамагаецца права жыць бяз страху; калі зьдзекуюцца над нашымі навукоўцамі, бо яны кажуць праўду? Баліць мне сэрца за ўсіх гэтых мучанікаў нашых часоў – ахвяраў нялюдзкага рэжыму, які пануе над Вамі. Баліць яно мне таксама за тых з Вас, мае дарагія суродзічы, што яшчэ вераць у прапаганду чалавека, які ня толькі ня дбае пра Ваш дабрабыт, але які гатовы прадаць Вас, каб утрымацца пры ўладзе. Бо-ж Вы, якія верыце дыктатару, таксама ахвяры, ахвяры нячэснасьці ды ілжы гэтага рэжыму.*

*Але хацела-б я ў гэты Сьвяты дзень папрасіць Вас, каб задумаліся Вы таксама над пытаньнем незалежнасьці Рэспублікі Беларусь.*

*Ці забаранялася-б Вам сьвяткаваць 25-га Сакавіка, каб край наш быў незалежным? Ці баяліся-б Вы гаварыць пабеларуску ў прысутнасьці ўніформаў, калі-б Вы адчувалі сябе жыхарамі незалежнай беларускай дзяржавы? Ці ўважалі-б Вы, што карысьней для Вашых дзетак вучыцца на чужой мове, каб даць сабе рады ў жыцьці, калі-б сапраўды верылі, што жывяцё ў сваёй уласнай краіне, у сваім уласным доме, дзе толькі Вы зьяўляецеся гаспадарамі? І ці трэба было-б бараніць магілы сваякоў і суродзічаў, закатаваных у часы сталінскага тэрору, калі-б Беларусь была незалежнай дзяржавай? Бо-ж якая незалежная дзяржава будавала-б дарогу на касьцях свайго ўласнага народу?*

*Нажаль, край наш і надалей пад ботам чужакоў ды іхных паплечнікаў. Таму і змушаныя мы прадаўжаць змаганьне за незалежнасьць. Бо толькі ў незалежнай Беларусі пазнае наш народ, што такое сапраўдная воля, што такое сапраўды быць гаспадаром у сваім доме.*

*Дарагія мае суродзічы, у нашых руках і толькі ў нашых будучыня нашага народу і нашага прыгожага краю. Бог нам паможа, сьвет нам паспрыяе, але толькі мы можам зрабіць Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай ды выратаваць яе ад сьмерці. Гэта наш Сьвяты абавязак перад Богам, Бацькаўшчынай ды тысячамі папярэднікаў-патрыётаў, што змагаліся за справядлівасьць і свабоду.*

*Жыве Беларусь!*

**Івонка СУРВІЛЛА**
***Старшыня Рады***
***Беларускае Народнае Рэспублікі***
*Канада, Сакавік 2002 году*

Рэдакцыйная перадавіца першага нумару газэты "Беларус" за 20-га верасьня 1950-га году акрэсьліла заданьні беларускае палітычнае эміграцыі гэтак: дакумэнтаваць і аналізаваць прычыны эміграцыі зь Беларусі, выкрываць камуністычную палітыку Крамля ў Беларусі, як і ўсіх акупантаў краіны, спрыяць кансалідацыі беларускае эміграцыі ды адлюстроўваць усе аспэкты ейнае дзейнасьці й жыцьця як у Злучаных Штатах, гэтак і ў Заходнім сьвеце.

перапынак быў выкліканы прычынай фінансавай насамперш — трэба было расплаціцца з запазычанасьцяй, дапасавацца да новае тэхнічна-адміністрацыйнае рэальнасьці ды ашацаваць нашую пісацка-пісьменьніцкую базу. Не забывайма, што ні заснавальнікаў газэты, ні шматлікіх іх наступнікаў ужо няма, газэта блізіцца да 500 нумару, ды жыцьцё беларускае крочыць наперад.

Дык вось! З задавальненьнем паведамляем, што пэрыяд затрымкі газэты

## У ДАЛЕЙШЫ ШЛЯХ!

Палітычнае крэда газэты "Беларус", БАЗА ды шырокага нацыянальнага грамадзтва, якія запачаткавалі газэту было: аднаўленьне вольнае незалежнае дэмакратычнае беларускае дзяржавы ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэткае праграмы й гэткіх прынцыпаў "Беларус" прытрымліваўся дзесяцігодзьдзямі. Паўстагодзьдзя – даўгое жыцьцё і для газэты, і для чалавека. Мяняліся пакаленьні рэдактараў – Лявон Галяк, Лявон Савёнак, Натальля Арсеньнева, Міхась Міцкевіч, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Зора Кіпель, Антон Шукелойць, Вітаўт Кіпель – мяняўся склад рэдкалегіяў, адміністрацыйны пэрсанал, дзесяткі дапісчыкаў, а газэта жыла. Праўда, былі ў нас і перапынкі. Як было сказана ў заяве ў апошнім нумары "Вестак і Паведамленьняў" нью ёрскага аддзелу БАЗА: "У 50-ці гадовым стажы "Беларуса" быў гэта ня першы вымушаны перапынак. Гэтым разам застойперажыты. Аднаўляецца выданьне "Беларуса" з памаладзеўшай рэдакцыяй, у аднаўленым стане, з улучаным у газэту бюлетэнем "Весткі й Паведамленьні".

Праўда, мусім адразу выказаць папярэджаньне — калі мы ў Нью Ёрку памаладзілі рэдакцыю, знайшліся маладыя супрацоўнікі, якія ўзялі на сябе адказнасьць вядзеньня адзінага воргану-люстра беларускае дзейнасьці ў дыяспары — фінансавая адказнасьць за выданьне газэты ляжыць на Беларускай грамадзкасьці. Выдаўцы й супрацоўнікі чакаюць ад Вас — грамады — фінансавага высілку, каб сфармаваць Фонд "Беларуса" ды забясьпечыць газэце жывучасьць. Падтрымкі гэтае ад грамадзтва мы чакаем неадкладна.

Плянуем выдаваць газэту месячна, як і раней, па мажлівасьці на 8-мі бачынах, і дзеля гэтага заклікаем асяродкі й прыватных сяброў дасылаць нам хроніку, агляды беларускае дзейнасьці й артыкулы."

***Рэдакцыя***

## *Высокапаважаная рэдакцыя газэты БЕЛАРУС, дарагія сябры!*

Маю вялікую прыемнасьць вітаць Вас з аднаўленьнем выданьня газэты БЕЛАРУС. Газэта гэтая на працягу паўстагодзьдзя была голасам усяе беларускае эміграцыі. На яе стронках адлюстроўвалася тое, што нам дарагое. А асноўнае, газэта бескампрамісна і пасьлядоўна бараніла ідэю беларускай дзяржаўнасьці.

І тым болей мяне цешыць гэтая падзея, і я ўпэўненая, што мае пачуцьці падзяляе беларускае грамадзтва, што выбралі Вы дату 25-га сакавіка, каб адрадзіць газэту БЕЛАРУС.

У гэтыя часы, калі расправа зь беларускім друкам у Беларусі набывае асабліва жорсткі характар, калі беспадстаўна зачыняюць незалежныя газэты ды судзяць іх рэдактараў, калі свабода слова зноў сталася марай кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, наш абавязак зноў быць голасам Беларусі па-за Беларусьсю.

Газэта БЕЛАРУС на працягу паўстагодзьдзя таксама яднала беларускую эміграцыю, а пасьля абвешчаньня незалежнасьці працягвала несьці наш голас да суродзічаў у Беларусі, яднала нас зь імі. У гэтым мамэнце, калі ўсе мы мусім бараніць незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны, калі існаваньне яе залежыць у такой вялікай меры ад волі дыктатара, які летуціць толькі аб аднаўленьні чужой імпэрыі, еднасьць нашая ў змаганьні за вольную Беларусь ёсьць тым вырашальным фактарам, ад якога будзе залежаць нашая перамога.

Дык жадаю Вам, дарагія сябры, плёну ў працы! Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
***Старшыня Рады БНР***

# БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСІ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЗМАГАНЬНЯ

Прайшло паўгода, пасьля фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. За гэты час намі сабраны вялікі факталягічны матэрыял аб парушэньнях выбарчага Закону і элемэнтарных правоў асобы ў час выбараў. Факты, характар парушэньняў і маштаб беззаконьня ўражваюць.

На што зьвяртаеш увагу і што шакуе – гэта зладжаная праца шматтысячнага дзяржаўнага і грамадзкага апарату фальсыфікацыі й гвалту над выбаршчыкамі. Выключэньняў амаль не было. Велізарная зграя чыноўнікаў, міліцыі, грамадзкіх паслугачоў рэжыму і КГБ дружна і адкрыта душылі ўсё, што законнае, вольнае, нармальнае і беларускае. Душылі груба і апантана, зьневажаючы годнасьць, як гэта рабілі-б людзі, сьведама павязаныя адзінай ідэяй крымінальнай улады, якой гатовыя служыць да астатку.

Чынавенства, каляніяльная намэнклятура, што засталіся ў Беларусі з савецкіх часоў, яшчэ раз выразна паказалі, што яны сабой уяўляюць і чаго ад іх можна чакаць пры любой уладзе.

Лукашэнка і рэжым у Беларусі здабылі галоўную мэту, да якой імкнуліся: пакінулі за сабою ўладу і захавалі статус-кво. Тым часам рэжым, практычна, поўнасьцю праваліў другую задачу – легалізацыю ўлады, прызнаньне выбараў за сапраўдныя.

Тым ня менш з усіх палітычных сілаў, што фігуравалі на выбарах, рэжым сваімі мэтадамі дасягнуў рэальных вынікаў.

Пацярпела фіяска нямецка-расейская палітыка (якую ўзначальваў Ганс-Георг Вік), накіраваная на прызнаньне і легалізацыю рэжыму Лукашэнкі. Пачынаючы з 1998-га году, рэжым умела гуляў зь Вікам, пакуль яму трэба было (пры дапамозе немцаў і заходніх лібэралаў) разваліць Беларускі Народны Фронт і зьнішчыць Беларускае Адраджэньне. Але пасьля таго, як сумеснымі намаганьнямі Фронт быў аслаблены й не дапушчана стварэньне беларускае альтэрнатывы на выбарах прэзыдэнта, Лукашэнка спыніў гульню зь Вікам і зрабіў выбар на карысьць захаваньня ўлады любымі мэтадамі.

Тым часам абмежаваная назіральная Місія АБСЭ, што прыехала назіраць за выбарамі ў Менск, прывезла (пад уплывам Віка) фармулёвачныя нарыхтоўкі, накіраваныя на прызнаньне выбараў і легалізацыю прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі. Аднак фальсыфікацыя выбараў была праведзеная Лукашэнкам настолькі вульгарна, груба і "дубаломна" (дасталося і міжнародным назіральнікам, і АБСЭ), што прызнаць выбары не рашыліся. Місія заявіла пра недэмакратычнасьць выбараў, а ў астатнім выказала нейкае бэлкатаньне з набору супярэчлівых фразаў (пра ліквідацыю ізаляцыі рэжыму і г.д.).

Тым ня менш Віка зь Беларусі выкінулі й загадалі ў краіну не пускаць. Фіяска гэтага мацёрага разьведчыка на дыпляматычнай ніве ў Беларусі, як сказалі-б палякі, было "мяждзюнцэ і друзгоцюнцэ". Нацыянальна-дэмакратычная апазыцыя (Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ) аб'явілі яго пэрсонай нон-грата за антыбеларускую дзейнасьць ў Беларусі, а рэжым Лукашэнкі яго скарыстаў і выкінуў. (Увогуле, як мяркуюць некаторыя палітыкі, Ганс Вік падлягае адказнасьці па беларускіх законах.)

Наступнай палітычнай сілай на выбарчай арэне фігуравала так званая "аб'яднаная апазыцыя", створаная Гансам Вікам з камуністаў, сацыял-дэмакратаў, прамаскоўскіх лібэралаў (АГП), некаторых агентурных утварэньняў (Хартыя-97) і выхадцаў з БНФ, што адракліся ад Беларускай нацыянальнай ідэі.

Гэтая апазыцыйная група не была (і не магла быць) самастойнай па той прычыне, што поўнасьцю залежыла ад фінансаваньня заходніх лібэральных фондаў і маскоўскіх таемных "уліваньняў", адпаведна – стала прыладай чужой палітыкі, найперш нямецка-расейскай і вікаўскага пляну пакрокавай легалізацыі рэжыму Лукашэнкі праз ілюзію дэмакратычных выбараў.

Гэткім чынам быў аб'яўлены й прафінансаваны лёзунг "грамадзянскай кааліцыі" й паднятая наверх старая прамаскоўская камуна-савецкая намэнклятура ў якасьці кандыдатаў на прэзыдэнта. Стварылі такую сытуацыю, калі беларускаму народу не было выбару. З аднаго боку – прамаскоўскі антыбеларускі бясплодны Лукашэнка. З другога – таксама прамаскоўскі й бясплодны былы савецкі прафсаюзьнік і член бюро ЦК КПБ-КПСС Ул. Ганчарык, на фоне якога Лукашэнка выглядаў спарцмэнам-героем. У выніку – найдзічэйшая фальсыфікацыя і варварства пры галасаваньні не сустрэла грамадзкага супраціву. За каго было беларусам змагацца? За камуністычнага мастадонта Ганчарыка?

Адразу пасьля выбараў і "элегантнай пабеды" Лукашэнкі, кандыдат на прэзыдэнта Ганчарык едзе працаваць у Маскву. Там пра яго не забыліся, прапанавалі цёплае месца намесьніка кіраўніка расейскіх прафсаюзаў. У Маскве ён цяпер працуе і жыве. Справа зробленая.

"Аб'яднаная апазыцыя" (пра якую Лукашэнка сказаў, што калі-б яе не існавала, то яе трэба было прыдумаць) выканала ў гэтай сытуацыі сьведамую ролю палітычнага сьмецьця, гною, на якім вырошчвалі нямецка-расейскае палітычнае пустазельле.

Пасьля "выбараў", выкананьня функцыі (і зьніжэньня фінансаваньняў) "аб'яднаная апазыцыя" практычна зьнікла з фраззалягічнага ўжытку.

Цяпер пра стан галоўнай беларускай сілы й галоўнай нацыянальнай надзеі – пра Беларускае дэмакратычнае Адраджэньне і Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух.

Трэба сказаць, што пасьля ўдару, які нанесьлі па Беларускім Народным Фронце ў 1999-м годзе і адыходу ў вікаўскую "апазыцыю" шэрагу фронтаўскіх структураў і асобаў, Беларускае дэмакратычнае Адраджэньне аслабела, яно страціла форму масавага руху, якім было раней, але захавала патэнцыяльныя магчымасьці (пры гэтым – вельмі вялікія). Менавіта на гэта разьлічаная была спроба актыўнага ўдзелу Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай апазыцыі ў выбарчай кампаніі 2001-га году па выбарах прэзыдэнта.

Гэта выдатна разумелі й Лукашэнка, і Масква, і яе нямецкія саюзьнікі. Пераламаць сытуацыю нам тады не ўдалося.

Цяпер, у сувязі зь непрызнаньнем выбараў і нелегітымнасьцю ўлады Лукашэнкі, Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ прынялі рашэньне дамагацца новых выбараў прэзыдэнта ў Беларусі пад міжнародным пратэктаратам. За аснову кансалідацыі сілаў прынята Праграма *Беларуская Салідарнасьць*.

* * *

Палітычная сытуацыя пасьля фальсіфікацыі выбараў пачынае разьвівацца даволі драматычна. Галоўны націск у захопе Беларусі Масква пачынае рабіць не на фармальна-палітычнае аб'еднаньне і гандаль з Лукашэнкам, а на пакрокавае прыўлашчваньне беларускай эканомікі й нацыянальнай маёмасьці, на захоп нашай краіны эканамічнымі мэтадамі (дэ-факто), абмінаючы Лукашэнку.

За гэты час Масква і яе агентура ў Беларусі навязалі сьціслыя кантакты з дырэктарамі беларускіх прадпрыемстваў, стварылі ў дырэктарацe свае лёбі, агентуру, прыхільнікаў і стаўленьнікаў. (Гэта нескладана было зрабіць, бо савецкі дырэктарат у Беларусі й так быў прамаскоўскі.) Масква пачала захоп беларускіх прадпрыемстваў за плячыма Лукашэнкі, уступаючы ў кантакты непасрэдна з прадпрыемствамі й дырэктарамі.

Лукашэнка зразумеў: тое, што ён увесь час дорага хоча прадаць оптам (гэта значыць, Беларусь), маскоўцы імкнуцца скупіць па кавалачках за яго плячыма. І калі гэта зробяць, то ён застанецца зь нічым (і нікім). Рэакцыя настала хуткая. Дырэктараў пачалі арыштоўваць і саджаць.

Трэба разумець, што тут грызьня гіенаў, дзьвюх прамаскоўскіх антыбеларускіх групаў. Грызуцца за маёмасьць, лёс і цела Беларусі. Агентурная журналістыка сьведама хоча паказаць дырэктарат як апазыцыю Лукашэнку, а арышты – як расправу з гэтай "апазыцыяй". Але трэба ведаць, хто піша і дзеля чаго пішацца. Дырэктарат – гэта не апазыцыя рэжыму, ніколі ня быў і ня будзе апазыцыяй. Бо для гэтага трэба мець беларускае сэрца, абараняць нацыянальныя інтарэсы й перажываць за Беларусь.

Можна прадбачыць, што грызьня будзе павялічвацца. Выхаду ў Лукашэнкі няма – будзе кусацца. У пэрспэктыве можа выйграць Расея, бо беларуская эканоміка тады ўпадзе зусім (спыніцца), і расейскі крымінальны капітал захоча забраць яе задарма.

На Захад Лукашэнка ня пойдзе (можа толькі пагуляць зь ім), гэта відавочна і зразумела. Стаўка на Беларускую незалежнасьць і нацыянальную палітыку ў нацыянальных інтарэсах – выключаецца. Лукашэнка паталягічна ненавідзіць усё беларускае (ды й ня тыя людзі за яго плячыма).

Сытуацыя ў Лукашэнкі, сапраўды, безвыходная (калі немцы не дапамогуць). Што ў такім разе ён стане рабіць? – можна спытацца. Тым, хто ведае яго, адказ зразумелы: грызьці й душыць. Як казалі бальшавікі, "да пасьледняй каплі крові".

У гэтым становішчы важна арганізаваць пасьлядоўнае беларускае супраціўленьне і палітычны выхад, каб унікнуць поўнага зьнішчэньня краіны. І такая работа вядзецца. Найперш – новыя выбары прэзыдэнта. Гэта ідэя агульнанацыянальнага кшталту, канкрэтная і зразумелая для ўсіх. (Калі ўлада не легітымная, то новыя выбары – першае, што мусіць стацца, каб вырашыць пытаньне.) Развіцьцё ідэі й пашырэньне яе ў канкрэтных справах павінна спрыяць накапленьню сілаў, стварэньню сытуацыі палітычнага разьвязаньня, з вызначэньнем умовы бакоў і г.д. Новыя сытуацыі ствараць новыя магчымасьці. Абсалютным тут зьяўляецца толькі змаганьне. Змаганьне з антыбеларускім рэжымам за Свабоду, Незалежнасьць і Будучыню Беларусі.

**Зянон ПАЗЬНЯК**
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"***
*19-га лютага 2002 г.*
*Варшава*

# ПАКАРАНЬНЕ БУДЗЕ

27-га лютага Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША заявіў пра магчымасьць увядзеньня санкцыяў супраць Беларусі ў сувязі з абвінавачаньнямі ў тым, што Менск прадае зброю краінам, якія падтрымліваюць тэрарызм.

"Злучаныя Штаты ўспрымаюць паведамленьні аб продажы зброі краінам або групоўкам, якія падтрымліваюць або спрыяюць тэрарызму, вельмі сур'ёзна. Мы скарыстоўваем розныя спосабы ціску, у рамках двухбаковых адносінаў з краінай-пастаўшчыком або, калі гэта неабходнае, шляхам санкцыяў з мэтай прадухіліць гэтыя пастаўкі зброі," – заявіў прадстаўнік Дзярждэпартамэнту Рычард Баўчэр.

Памочнік дзяржсакратара Стывэн Пайфэр паведаміў журналістам падчас свайго трохдзённага візыту ў Менск аб тым, што Злучаныя Штаты атрымалі пераканаўчыя доказы ўдзелу Беларусі ў гандлі зброяй насуперак санкцыям ААН. Паводле Пайфэра ЗША, у прыватнасьці, валодаюць інфармацыяй аб тым, што ірацкія вайсковыя спэцыялісты знаёміліся ў Беларусі з устаноўкамі супрацьракетнай абароны С-300.

Гаворачы пра магчымасьць увядзеньня санкцыяў супраць Беларусі, сп. Баўчэр сказаў, што ёсьць і іншыя шляхі ўплыву на краіны, якія гандлююць зброяй з тэрарыстамі:" Перш за ўсё мы ім гэта кажам. Па-другое, мы пераконваем іх у неабходнасьці кантраляваць гандаль. Па-трэцяе, мы сочым за гэтым гандлем там, дзе ён адбываецца, і мы спрабуем стрымаць яго. Мы таксама спрабуем пераканаць краіны-пакупнікі зброі. Па-чацьвертае, у розных месцах мы маем кантралёраў, рэжым санкцыяў, мытных інспэктараў і шмат іншых мэханізмаў для таго, каб ажыцьцяўляць санкцыі ААН. І па-пятае, ёсьць і іншыя сродкі".

Беларускія ўлады з абурэньнем адрэагавалі на абвінавачаньні з боку Пайфэра. Афіцыйны Менск заявіў, што ЗША не падмацавалі свае абвінавачаньні аніякімі доказамі, і што Беларусь выконвае ўсе міжнародныя рэзалюцыі, датычныя гандлю зброяй.

Імкнучыся абвергнуць усе публікацыі на гэты конт, намесьнік дзяржсакратара гэтак званае саюзнае дзяржавы Сяргей Калашнікаў у інтэрвію адной з маскоўскіх радыёстанцыяў пацьвердзіў тое, што цягам некалькіх месяцаў упарта абвяргаў афіцыйны Менск — а менавіта факт навучаньня ў Беларусі іракскіх лётчыкаў. Сп. Калашнікаў заявіў, што Беларусь ніякіх дамоўленасьцяў не парушыла, таму што «няма ніякага пагадненьня пра тое, каб, напрыклад, не навучаць тыя ці іншыя кадры», а тут гаворка ідзе толькіпра павышэньне кваліфікацыі ірацкіх лётчыкаў. Але Стывэн Пайфэр, знаходзячыся ў Менску, ясна заявіў, што іракцаў можна вучыць толькі дзеля аднаго — каб яны змаглі зьбіваць амэрыканскія самалёты, што патрулююць беспалётную зону ў Іраку.

# Беларусь за месяц

## ТАЯМНІЧАЕ ЗЬНІКНЕНЬНЕ ЮРАСЯ КОРБАНА

19-га студзеня 2002 году зьнік кіраўнік віцебскага Цэнтру моладзевых ініцыятываў і намесьнік старшыні мясцовай арганізацыі БНФ Юрась Корбан. Але сваякі Юрася зьвярнуліся па дапамогу ў сродкі масавай інфармацыі толькі ў пачатку лютага, а крымінальная справа па факце зьнікненьня была заведзеная толькі 12-га лютага. Гэта адбылося таму, што пасьля зьнікненьня Сп. Корбан некалькі разоў тэлефанаваў бацькам з мабільнага тэлефону зь Менску, зь Віцебску, зь Берасьця і нават Варшавы. У апошнім тэлефанаваньні сказаў маці, што, пэўна, яны больш не пабачацца. Магчыма, хлопец быў выкрадзены, а магчыма, такім чынам вырашыў трапіць у палітычныя эмігранты, бо 21-га студзеня ён мусіў зьявіцца на допыт да фінінспэктараў. Апошнія і высунулі вэрсію, што хлопец хаваецца.

## КХП-БНФ

9-га лютага ў Менску адбылося паседжаньне Сойму Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. На ім быў зачытаны даклад старшыні партыі Зянона Пазьняка і выказаная пазыцыя па надзённым праблемам. Пастанавілі працягнуць збор заяваў у грамадзтва БНР, а таксама подпісаў у абарону каталіцкай радыёпраграмы "Голас душы", зачыненай у пачатку студзеня. Сябры партыі рыхтуюцца да Дня Волі, а таксама заклікаюць правесьці датэрміновыя прэзыдэнцкія выбары, бо лічаць Лукашэнку незаконна абраным.

## КУРАПАТЫ

Грамадзкія ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" й "Моладзь у абарону Курапатаў" выпрацавалі ўласную канцэпцыю праекту мэмарыяльнага комплексу. На думку аўтараў, дзяржава павінна забясьпечыць ахоўны статус урочышча, дабраўпарадкаваць прылеглую тэрыторыю, узьвесьці помнік ці кампазыцыю. Мяркуецца абнесьці ўрочышча плотам, пабудаваць уваходную браму, усталяваць новыя крыжы й лавы. Пасьля зацьверджаньня канцэпцыі плянуецца абвясьціць міжнародны конкурс на сам праект мэмарыялу. Пытаньне зь фінансамі пакуль ня вырашанае. Вахта валанцёраў у Курапатах працягваецца.

## МІКОЛЕ МАРКЕВІЧУ ПАГРАЖАЕ ТУРМА

13-га лютага рэдактар зачыненай гарадзенскай газэты "Пагоня" быў выкліканы ў пракуратуру, дзе яму прад'явілі абвінавачаньне ў паклёпе на прэзыдэнта РБ. Артыкул крымінальнага кодэксу прадугледжвае за абразу да пяці гадоў зьняволеньня. Падставай сталіся тры публікацыі газэты 4-га верасьня мінулага году, якія "ўтрымліваюць паклёп спалучаны з абвінавачаньнем прэзыдэнта ў асабіста цяжкіх злачынствах – забойстве, генацыдзе і стварэньні злачыннай арганізацыі". Крымінал угледзелі ў артыкуле Паула Мажэйкі "Ідзем на выбары", артыкуле ў падтрымку Ўладзімера Ганчарыка "Ён – не Лукашэнка" і жартоўным вершыку "Абяшчаў! Абяшчаю! Буду абяшчаць!" У першай дэкадзе лютага сп. Маркевіч быў у ЗША, па запрашэньні міжнароднай арганізацыі па правох чалавека. Позва ў суд прыйшла за тры дні да адлёту, калі ўжо былі спакаваныя валізкі, купленыя квіткі й аформленая віза, каб прымусіць думаць у Вашынгтоне і Нью Ёрку пра суд. Маркевіч вярнуўся. Аналягічнае абвінавачаньне прад'явілі й Паўлу Мажэйку. Зараз "Пагоня" выходзіць у інтэрнэце **(www.pahonia.com)**. Навіны абнаўляюцца амаль штодзень. Але віртуальных чытачоў меней чым "папяровых". Мала маюць кампутараў чытачы "Пагоні", не кажучы ўжо пра інтэрнэт.

## ТРАДЫЦЫЙНАЯ АКЦЫЯ ЛЮБОВІ

"Малады фронт" зладзіў 14-га лютага ў Менску Акцыю любові (ці вулічны карнавал), прымеркаваную да дня Сьв. Валянтына. А Менгарвыканкам традыцыйна яе не дазволіў. Нягледзячы на гэта, моладзь вырашыла сабрацца на Плошчы Якуба Коласа. Міліцыя ачапіла раён і затрымлівала ўсіх падазроных маладзёнаў. Каля 250 маладых людзей пайшлі "карнавалам". На сутыку вуліцы Дарашэвіча і праспэкта Скарыны АМАП пачаў разганяць дэманстрацыю. Затрымалі некалькі чалавек. Большасьць пасьля складаньня пратаколаў адпусьцілі. Аштрафавалі шасьцёх. Лідэра "Маладога фронту" Павал Севярынец дастаў найбольшы штраф: 300 мінімальных заробкаў (1800 даляраў). Сярод затрыманых быў і дваццацігадовы Стас Івашкевіч. Ён схаваў на целе сьцяг Эўрапейскага Зьвязу, які не знайшлі ні пры вобшуку, ні ў міліцэйскім пастарунку, ні прыёмніку-разьмеркавальніку, ні ў судзе Савецкага раёну. Івашкевіча пакаралі 20 мінімальнымі заробкамі. Ён выйшаў з будынка, на ганку дастаў сьцяг і на вачох падпалкоўніка Гірэля абгарнуўся сьцягам.

## НАПАД НА ЗБС

15-га лютага на офіс Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, афіцыйна забароненага ў сьнежні мінулага году, быў зьдзейснены напад. Двох чалавек пагражаючы нажом і разводным ключом уварваліся ў памяшканьне і пакалалі ЗБС-аўцаў на падлогу. Бандыты зьнішчылі нумар студэнцкай газэты "Танкіст" і зьнесьлі кампутар з маніторам і модэмам. ЗБС-аўцы сталі ахвярамі ўласнай неасьцярожнасьці. Дзьверы офісу ніколі не зачыняліся, і нават на гасьцей мала хто зьвяртаў увагу.

## КАНАХ – СТАРШЫНЯ БКДП

16-га лютага на 5-м зьезьдзе Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў абралі новага старшыню. Колішні старшыня Генадзь Быкаў падаў у адстаўку. Новым старшынём абраны Мікола Канах, з 1999-га году ён быў намесьнікам старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларусі, а на пачатку 90-х быў старшынём прафкаму чыгуначнага транспарту. У жніўні 1995-га году Мікола Канах быў адным з арганізатараў страйку менскіх мэтрапалітэнаўцаў. Зараз сп. Канах лічыць, што першаснай задачай ёсьць зьмена накірунку дзейнасьці арганізацыі.

## ЗВАРОТ ДА ДЖОРДЖА БУША

Жонкі зьніклых беларускіх дзеячаў Ірына Красоўская і Сьвятлана Завадзкая, а таксама жонка вязьня-бізнэсоўца Андрэя Клімава Тацяна сустрэліся 19-га лютага ў Менску з намесьнікам дарадчыка дзяржсакратара ЗША Стывэнам Пайфэрам. Пайфэр знаходзіўся ў беларускай сталіцы з мэтай вывучэньня стану дэмакратыі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Жанчыны распавялі яму пра стан сьледзтва па зьнікненьні вядомых асобаў і перадалі ліст Дж. Бушу. Яны просяць амэрыканскага прэзыдэнта ўзьняць пытаньне пра зьніклых мужоў на сустрэчы з Уладзімерам Пуціным, каб расейскі прэзыдэнт паўплываў на Лукашэнку.

## ПРАФСАЮЗНАЯ АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ ПЕРАНОСІЦЦА

21-га лютага пазачарговы пленум Прафсаюза аўтамабількага і сельскагаспадарчага машынабудаваньня (АСМ) прыняў рашэньне аб пераносе акцыі пратэсту з 5-га сакавіка на 28-га сакавіка. Сябры прафсаюза АСМ спадзяюцца на масавыя пратэсты рабочых супраць падзеньня жыцьцёвага ўзроўня насельніцтва і антыпрафсаюзнай палітыкі ўладаў. Акцыі мусяць прайсьці ў буйных гарадох і прамысловых цэнтрах і мець выключна эканамічны характар. Наколькі спраўдзяцца надзеі, пакажа час. Апошнім часам прафсаюзы нават некалькі тысячаў пратэстантаў на вуліцы не выводзілі. Ды й рабочыя ня надта паважаюць прафсаюзы.

## АРГКАМІТЭТ "ДНЯ ВОЛІ"

25-га лютага, за месяц да 25-га Сакавіка, створаны арганізацыйны камітэт (старшыня гісторык Анатоль Грыцкевіч), які займецца плянаваньнем і правядзеньнем мерапрыемстваў у Менску. 24-га сакавіка ўскладуць кветкі да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу. На 25-га сакавіка запляванаваны ўрачысты сход у Палацы мастацтваў (актавая заля налічвае блізу 180 месцаў). Аргкамітэт "Дня Волі" меўся 10-га сакавіка правесьці "ўрачысты сход інтэлігенцыі", каб зацьвердзяць прапанову гімна Рэспублікі Беларусь. Апошняя акцыя падаецца вельмі сумніўнай, бо ў Беларусі, што не інтэлігент, то свой погляд на гімн.

## "МАЛАДАЯ ГРАМАДА" ЗЬМЯНІЛА ПРЫЯРЫТЭТЫ

17-га лютага адбыўся VI зьезд "Маладой грамады". Арганізацыя, была ўтвораная ў 1994-м годзе як структурная адзінка у БСДП "Народная грамада". У 1999-м годзе ў БСДП пачаўся канфлікт, які ініцыявалі сябры партыі, незадаволеныя аўтарытарнай палітыкай лідэра партыі Міколы Статкевіча. Адбыўся раскол і ў "Маладой Грамадзе". Прыхільнікі Статкевіча ўтварылі фракцыю "Маладыя сацыял-дэмакраты", якая 2-га сьнежня 2001-га году афармілася ў самастойную адзінку. А сябры "Маладой грамады" у той дзень брали ўдзел ва ўстаноўчым зьезьдзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (апанэнтаў Статкевіча). Цяпер прыхільнасьці "Маладой грамады" афіцыйна абвешчаныя. Арганізацыя ідзе на шчыльныя кантакты з новай БСДП, падтрымлівае ідэю кансалідацыі беларускіх сацыял-дэмакратаў і абмяжоўвае кантакты з партыяй Статкевіча. Вырашана ўдзельнічаць у муніцыпальных выбарах 2003-м годзе. Старшынём "Маладой грамады" пераабраная Тацяна Алесіна.

## БТ-2

Аляксандар Лукашэнка падпісаў загад аб стварэньні другога нацыянальнага каналу. Ён мае адчыніцца 1-га траўня. Кіравацъ БТ-2 (старшыня праўленьня закрытага акцыянернага таварыства "Другі нацыянальны канал") будзе Рыгор Кісель. У 1994-2000-х гадох кіраваў першым нацыянальным каналам, а потым выконваў пачэсную амбасадарскую місію ў Румыніі. На БТ-2 частка перадач будзе свая, а частка – з масавых расейскіх каналаў ОРТ і РТР.

## КНІГІ ЎЛАДЗІСЛАВА ЧАРНЯЎСКАГА

23-га лютага ў менскім "чырвоным касьцёле" адбылося асьвячэньне касьцельнай бібліятэкі, што носіць імя Адама Міцкевіча. Урачыстасьць прымеркавалі да перадачы ў бібліятэку кнігаў нябожчыка Ўладзіслава Чарняўскага, якую ён рупна зьбіраў на працягу амаль 50 гадоў, жывучы ў Вішневе. Пробашч касьцёла Сымона і Алены кс. Уладзіслаў Завальнюк сказаў, што калекцыя памерлага сьвятара складае часьцінку ягонай духоўнай спадчыны, і яна павінна застацца сярод парафіянаў. Частка кніжнай спадчыны перададзеная каталіцкай сэмінарыі ў Пінску.

Кс. Чарняўскі пражыў доўгае жыцьцё і пакінуў ня толькі кнігі, але і багатае ліставаньне ды ўспаміны. Яго не любілі ў савецкія часы камуністы за беларускую мову ў касьцёле, ахрысьціўшы нацыяналістам. Не любілі калегі польскія ксяндзы за бескампраміснасьць да іх, называючы камуністам.

## НОВЫ РОК-КАРОЛЬ

24-га лютага ў канцэртнай залі "Менск" адбылася чарговая рок-каранацыя. Рок-карона прысуджаная Алесю Сушу, прад'юсару папулярных праектаў "Сьвяты вечар" і "Я нарадзіўся тут". "Палянэз Агінскага" некалькі месяцаў займаў першае месца ў гітпарадзе "Радыё Рокс", самай папулярнай зь беларускіх FM-станцыяў. Музыкантам году стаў Зьміцер Вайцюшкевіч, а паэт Леанід Дранько-Майсюк, аўтар словаў да песьняў з СД "Цацачнай крамы", стаў пераможцам у намінацыі "Тэкст году". Лепшым альбомам году прызнаны альбом "Хавайся ў бульбу" "Крамы", кліпам году -"На турэцкіх палёх" ("Палац"), "Рок-князёўна" – Дана з "Імпэту", а "Песьняй году" — "Мая краіна Беларусь" групы "Безь білета""

## НЕ ТУДЫ ПАТРАПІЎ

25-га лютага ў Нацыянальным аэрапорце "Менск-2" урачыста сустракалі беларускіх гакеістаў, што прыляцелі з Салт-Лэйк-Сыты. Сярод прысутных былі міністар унутраных справаў і прэзыдэнт фэдэрацыі гакея Уладзімер Навумаў, намесьнік кіраўніка МУС Леанід Глухоўскі й дэпутат Нацыянальнага сходу Уладзімер Канаплёў. Калі алімпійцы ўвайшлі ў залю аэрапорту, зайграў аркестар, пачалося скандаваньне: "Беларусь! Беларусь!" Пачаўся фуршэт. Узяў келіх і Уладзімер Канаплёў і расчулена прамовіў: "Добра было-б, каб Вы й надалей змагаліся за нашую Расею"?!

## ВЯСКОВЫ НАСТАЎНІК ДАБІЎСЯ СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ

Мікалай Уласевіч, настаўнік дзевяцігодкі ў Газе (Астравеччына) дабіўся, каб яму, а таксама ўсім настаўнікам у тэрмін выдавалі заробак. Аддзел адукацыі моцна завінавачваўся настаўнікам. У разьбіральніцтве нават паўдзельнічалі чыноўнікі з райвыканкаму. На дзіва, сп. Уласевіч перамог. Астравецкі РАНА абавязалі своечасова выплочваць заробак настаўнікам, а загадчыка аддзелу адукацыі папярэдзілі, што за парушэнні пастановы суда, яго пакараюць штрафам у два мінімальныя заробкі (блізу 12 амэрыканскіх даляраў). Выпадак зь Мікалаем Уласевічам унікальны, мала хто з настаўнікаў пратэстуе і тым больш перамагае ў спрэчках.

## УЗРАСЛА "МІНІМАЛКА"

З 1-га сакавіка мінімальны заробак у Беларусі падвышаны з 10 тыс. рублёў да 17 тыс. рублёў. 10 амэрыканскіх даляраў. Сярэдні заробак за студзень склаў 99,3 даляры.

 





OFFICE OF THE GOVERNOR
JRTC, 100 West Randolph, Suite 16
Chicago, Illinois 60601

GEORGE H. RYAN
Governor

January 11, 2002

Editor
Bielarus
204 Ave. N
Brooklyn, NY 11230

Dear Mr. Yurevich:

As Governor of the State of Illinois, I would like to congratulate you on the 52nd Anniversary of your publication, "Bielarus."

Illinois is comprised of many ethnic communities that join to form a great state while also maintaining their rich cultural individualities. Your publication serves as a vital link to the Bielarusian American community. Not only are your readers educated by its contents, but they also benefit by affirming an invaluable connection to their heritage.

On behalf of the people of the State of Illinois, I commend your dedication to the Bielarusian American community. The hard work that goes in to each and every publication is appreciated.

Sincerely,

George H Ryan

GEORGE H. RYAN
Governor

# "НОВАЯ ЗЯМЛЯ" ПА-АНГЕЛЬСКУ

2-га лютага ў Лёндане ў залі Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру пры бібліятэцы Ф. Скарыны адбылася прэзэнтацыя перакладу паэмы Якуба Коласа "Новая Зямля", зробленага спадарыняй Верай Рыч.

Адкрыў вечар айцец Аляксандар Надсон. Праграму распачаў выступ групы дзяцей зь Беларусі, якія прыехалі ў Брытанію праз дабрачынны фонд "Сакавік". Дзеці выканалі беларускія народныя танцы й сьпевы, дэклямавалі паэзію Якуба Коласа. Урыўкі з твораў беларускага песьняра чыталі сябры паэтычнага асяродку пры часапісе "Manifold", рэдактаркай якога зьяўляецца Вера Рыч. Прысутнымі былі сябры Ангельска-Беларускага Таварыства, ЗБВБ. Таксама наведаў імпрэзу сп. В. Садоха, амбасадар Рэспублікі Беларусь у Аб'едналым Каралеўстве, разам з сям'ёю і дарадчыцаю па пытаньнях культуры сп-яй З. Калантай. На імпрэзе прысутнічала таксама ўнучка Якуба Коласа, кіраўнічка дабрачыннага фонду "Сакавік" сп-ня Марыя Міцкевіч.





# СУПОЛКА "БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА" Ў ШВЭЦЫІ 1948-1975-х ГАДОЎ

Стваральнікам суполкі быў Васіль Лукашык, таму варта трохі распавесьці пра гэтага чалавека ды ягоных сяброў.

Нарадзіўся Васіль Лукашык у 1905-м годзе (па пашпарту – у 1911-м) на Сакольшчыне. Тата – беларус. Маці – расейка, па прозьвішчу Твердынская. Гадаваўся хлопчык ў Беластоку. Пры польскай уладзе В. Лукашык скончыў расейскую гімназію ў Беластоку, потым студыяваў паліталёгію на Віленскім унівэрсытэце імя Батуры. У Вільні Лукашык бярэ актыўны ўдзел у беларускім руху, сябруе зь земляком Станіславам Грынкевічам.

З прыходам Саветаў Лукашык далучаецца да працы па стварэньню на Беласточчыне сеціва беларускіх школак. Потым робіцца загадчыкам Беластоцкага дзіцячага дому. Зь цягам часу дом перапаўняюць дзеткі рэпрэсаваных камуністамі бацькоў (палякі, беларусы, жыды, расейцы).

У 1941-м годзе немцы зачыняюць дом, да таго-ж на вачох дзетак разбураюць клюмбу з кветкамі ў форме "зоркі". Убачыўшы гэта, дзеткі ціха казалі: "Усё, капец, ніколі мы ўжо ня будзем лётнікамі ды інжынерамі". Калі немцы далі дазвол на стварэньне цывільнай беларускай улады, Лукашык робіцца бурмістрам Беластоку. Але па даносу ён быў арыштаваны гестапа й адпраўлены да канцэнтрацыйнага лягеру "Аўшвіц" (папольску Осьвенцым). З "Аўшвіцу" Васіль Лукашык уцёк. У Варшаве набыў фальшывыя паперы, але падчас чарговай нацысцкай "зачысткі" быў адпраўлены на прымусовую працу ў Нарвэгію. За Палярным колам разам з палоннымі жаўнерамі Чырвонай арміі, заходнімі беларусамі й палякамі Лукашык будаваў стратэгічную дарогу. Тут, у лягеры, ён стварае беларускі гурток. У 1944-м годзе сябры гурта ў складзе 10 беларускіх хлопцаў робяць адважныя ўцекі зь лягера праз горы ў Швэцыю. Так пачынаецца эміграцыя.*

У 1948-м годзе Васіль Лукашык як рэпрэзэнтант Швэцыі быў дэлегатам Першага сусьветнага зьезду беларускай паваенай эміграцыі, які адбыўся у Парыжы з 28-га лістапада па 2-га сьнежня.

Выконваючы рашэньне зьезда, у тым самым годзе Лукашык разам зь сябрам Язэпам Федарчуком стварае "Беларускую Грамаду" ў Швэцыі – "Vitryssland societet." Суполка атрымлівае юрыдычную рэгістрацыю, выдае статут Грамады па-швэдзку й па-беларуску, піша адозвы ў СМІ.

Заўважым, што праца па стварэньню суполкі йшла цяжка. Моцная польская суполка запрашала ўсіх беластоцкіх беларусаў (а менавіта яны апынуліся ў Швэцыі) да сябе, на падставе іх былога польскага грамадзянства. Расейская суполка цягнула да сябе, таму што маўляў беларусы былі парафіянамі расейскай праваслаўнай царквы ў Стакгольме. Але, дзякуючы непахіснай упартасьці, кіраўнічаму таленту Лукашыка й Федарчука беларусы здолелі згуртавацца працаваць й захавацца як народ на чужыне, якая воляю лёса стала новай Радзімай. Сябры суполкі ладзілі сталыя сустрэчы, штогадавыя вячэры, прысьвечаныя дню Волі 25-га Сакавіка. Грамада падтрымлівала сувязі з дыяспарай ЗША й Аўстраліі, атрымлівала беларускія газэткі й часопісы. Лукашык асабіста супрацоўнічаў з газэтай "Bielarus-Беларус" (ЗША) і яе галоўным рэдактарам Станіславам Станкевічам.

У 1975-м годзе 17-га сакавіка за 7 дзён да чарговай гадавіны БНР Васіль Лукашык раптоўна памірае. З нагоды жальбы газэта "Беларускі голас" (№232 за 1975) зьмяшчае нэкралёг:

***Сьв. † пам.***
***ВАСІЛЬ ЛУКАШЫК***
*былы дзеяч БСР Грамады і Таварыства Беларускае Школы ў Беластоку. Былы Бурмістр Беластоку. Арганізатар "Беларускай Грамады" ў Скандынавіі. Сябра Камітэту Вольнае Беларусі, памёр раптоўна 17-га сакавіка 1975 году ў Густаўбэргу ў Швэдыі. Паходзіў з Сакольшчыны.*

*Хай будзе яму лёгкай чужая зямля!*

***Сябры***

Хутка адыходзяць у іншы сьвет старыя сябры суполкі...

Так сталася, што на час арганізацыі новай беларускай суполкі "Vitryssland", якая паўстала ў 1995-м годзе ў Швэцыі, старая Грамада спыніла свае існаваньне. Але іхныя высілкі не прайшлі марна. Новай генэрацыі беларусаў у Швэцыі пачынаць справу было значна лягчэй, бо за намі была Гісторыя.

***Андрэй Котлярчук***
***Стакгольм***

** Зьвесткі атрыманыя зь інтэрвію ўдавы Васіля Лукашыка Яніны Лукашык 23.02.2001. Запіс у архіве аўтара.*

 




# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan-American Association, Inc. №4 (434)


# СЯРЭДЗІЧ: "НЯ ТРЭБА ДРАМАТЫЗАЦЫІ, БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ЖЫЦЬ!"

***9-га лютага ў Фундацыі Крэчэўскага адбыўся сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. Падчас сходу адбылася сустрэча з рэдактарам газэты "Народная Воля" сп. Іосіфам Сярэдзічам (Менск) і рэдактарам газэты "Пагоня" сп. Міколам Маркевічам (Горадня). Яны прыехалі на запрашэньне Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека, каб азнаёміць амэрыканскія ўрадавыя ды праваахоўчыя арганізацыі са становішчам у галіне дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі.***



*М.Маркевіч, А.Шукелойць, І.Сярэдзіч і В.Зайка*
*Фота Максіма Галіцына*

Сустрэча праходзіла ў форме гутаркі, якую пачаў сп. Сярэдзіч. Ён распавёў пра сваё бачаньне становішча, у якім сёньня апынулася Беларусь, адзначыўшы, што шмат хто з палітыкаў і журналістаў без патрэбы занадта драматызуе сытуацыю. Нягледзячы на паразу апазыцыі на выбарах і пэўны спад палітычнае актыўнасьці жыцьцё працягваецца, і яно вымагае далейшай нялёгкай працы, мабілізацыі сілаў і магчымасьцяў, пошуку новых палітычных шляхоў і тактычных крокаў. Сп. Сярэдзіч падрабязна спыніўся на аналізе апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у верасьні 2001-га г. "Чаму не атрымалі перамогу? Давайце паглядзім. Толькі за паўтара месяцы пачалі шукаць лідэра. Шкада, канешне, што З. Пазьняк заўчасна пакінуў край, гэта не працуе ні на Пазьняка, ні на беларускую справу. Трэба было кінуць кліч пра вяртаньне Пазьняка. Гэты палітык свой патэнцыял далёка ня вычарпаў. Пры адпаведнай інтэнсыўнай працы, аб'еднаньні сілаў і намаганьняў апазыцыі Пазьняк быў-бы адным з найлепшых кандыдатаў у прэзідэнты. Тады у рамках падрыхтоўкі да выбараў апазыцыя засяродзілася-б на штодзённай "чарнавой" працы, працы ў рэгіёнах, на выпрацоўцы яснай і прыцягальнай праграмы. Тоеж фактычна тычыцца і С. Шарэцкага. Калі зьвязаліся зь ім, каб даць пра яго газэтны матэрыял, прапанаваць вярнуцца да палітычнай дзейнасьці, вярнуцца на Бацькаўшчыну – размовы не атрымалася. А думалася, што ён мусіў-бы вярнуцца, як і шмат іншых дзеячоў – і Шушкевіч, і Пазьняк, і Навумчык. Гэтыя людзі зрабілі шмат. Але сёньня цэнтар працы – там, у Беларусі. Усім трэба вярнуцца і дапамагчы справамі, на месцы".

Далей сп. Сярэдзіч адзначыў: "Праца лідара мусіць быць на Бацькаўшчыне. Да таго-ж, каб перамагчы Лукашэнку, патрэбны лідэр з гэткай-жа сілай асабістага ўплыву на людзей, здольнасьцю пераканаць, прыцягнуць на свой бок, завалодаць увагай людзей. Каб прыехаў Пазьняк, каб заявіў пра сябе як кандыдат ў прэзыдэнты, пайшоў ад хаты да хаты, з гораду ў горад – то зусім інакш запрацавалі-б групы падтрымкі, зусім па-іншаму ўспрынялі-б яго простыя выбарцы й усё насельніцтва. А так, хто заклікаў людзей, хто заходзіў у хаты, працаваў дзень і ноч, даводзячы да насельніцтва свае пляны й праграмы, мабілізуючы кожнага прыхільніка вольнай і незалежнай Беларусі? Па сутнасьці, ніхто ва ўвесь голас і не заклікаў. А праціўнікаў Лукашэнкі, тых што за незалежнасьць – па нашых гарадох і вёсках ня так і мала".

І яшчэ пра выбары: "Нажаль, канешне, нашыя людзі ў большасьці застаюцца абыякавыя да падзеяў, што адбываюцца навокал, у іхнай уласнай краіне. Каб у якой іншай дзяржаве грамадзкасьці стала вядомая такая інфармацыя, як тут у нас – пра эскадроны сьмерці, дык той рэжым быў бы зьмецены й кіраўнікам давялося-б адказваць за свае злачынствы. У нас маем тое, што ёсьць. Дзесяцігодзьдзі камунізму, Саветы, гулагі – вытравілі з нас самапавагу, а без яе мы – нішто. Сёньня пры ўладзе ў нас быдла. Няма чаго гаварыць, конюхі. А нам трэба сёньня шукаць сьцяг нацыі – лідара. Таму трэба працаваць, трэба яднацца, брацца за справу, выходзіць з пасьлявыбарчага адпачынку."

Сп. Сярэдзіч спыніўся на агульнай ацэнцы штодзённага жыцьця: "Як жывем мы ў Беларусі? Цяжка жывем. Ясная рэч. Але людзі нашыя жывучыя. Можа Бог падараваў нам гэтую жывучасьць. Усё супраць нашага чалавека – грошай ня плоцяць, падаткі дзяруць, кошты й кватэрную плату падвышаюць, а чалавек хоць крэхча, а жыве. Дзяржава сама сабе, а людзі самыя сабе. Вунь у маёй вёсцы на Палесьсі – з 250 двароў засталося 100, людзі ў бальшыні старэйшага ўзросту, моладзь павыязджала. А ў Менску, гляньце – вылізаны прасьпэкт Скарыны, прыгожа апранутыя людзі, працуюць тэатры, кіно. Нацыя сама сябе балансуе – там выміраюць – тут нараджаюцца, недзе дэградуюць – недзе разьвіваюцца. Нешта губляем, нешта знаходзім. Раўнавагу трэба шукаць і рухаць яе ў станоўчы бок ."

Прамоўца таксама сказаў: "Але для Лукашэнкі зьмены ў сыстэме, зьяўленьне сапраўдных гаспадароў, уласьнікаў на зямлі – значыць аслабленьне ягонае ўлады. Таму, ня гледзячы на шматлікія прапановы рэформаў сельскай гаспадаркі, нягледзячы на сталае пагаршэньне эканамічнага становішча, Лукашэнка ня можа без "калектыўнай гаспадаркі". Разглядаюцца нават варыянты падпарадкаваньня аднаго калгасу другому, але ясна адно – паляпшэньняў у такой сыстэме не прадбачыцца, яна будзе "ляжаць", бо ня мае ніякай пэрспэктывы. Лукашэнка хоча грабці жар чужымі рукамі – прымушаць банкі выдаткоўваць новыя й новыя сродкі, выціскаць грошы на калгасы ў бізнэсмэнаў, але гэта ня можа працягвацца бясконца. Да таго-ж на Лукашэнку ціснe Масква, чыйму дзяржаўна-алігархічнаму капіталізму карціць увесьці ў нас свае правілы гульні й адкроіць сабе добры кавалак прыватызацыйнага пірагу або нават прыдбаць яго цалкам. І тут Лукашэнка хоцькі-няхоцькі робіцца прыхільнікам апляванай і патаптанай ім беларускай незалежнасьці, якую ён цэлы час ставіў на кон у гульнях з Расеяй. На ўзнаўленьне СССР ці нейкага іншага саюзу Лукашэнка ня пойдзе па той простай прычыне, што быць уладаром у асобнай, нават гэткай слабой, як сёнешняя РБ, дзяржаве, больш прывабна, чымсьці быць першым сакратаром якога Севера-заходнага абкаму ці губкаму.

*Працяг на бач. 6*

# МАРКЕВІЧ: "СТАНОВІШЧА ЦЯЖКОЕ, АЛЕ БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА..."

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

| | Складкі/Бюлетэнь | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | С. Бубейка | 30 | - |
| В. Яскевіч | 30 | 30 | Я. Запруднік | - | 30 |
| Ю. Андрусышына | 30 | 20 | А. Івановіч | 30 | - |
| В. Едзіновіч | 30 | 20 | В. Кіпель | - | 30 |
| А. Колбун | 30 | 20 | З. Кіпель | - | 30 |
| Т. Красоўская | 30 | 20 | Я. Клачко | 30 | - |
| М. Лойка | 30 | 20 | І. Ляонава | 30 | - |
| М. Рагуля | 30 | 20 | А. Нікалаенка | 30 | - |
| Н. Рагуля | 30 | 20 | С. Пятровіч | 30 | - |
| А. Сандовіч | 30 | 20 | В. Стручкоўская | 30 | - |
| Ю. Шкетава | 30 | 20 | Ж. Чорназіпуньнікава | 30 | - |
| А. Шукелойць | 30 | 20 | М. Галіцын | 20 | - |
| Я. Сіманюк | 30 | 10 | Ю. Лапіцкі | - | 10 |

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**
***Valeri Dvornik***
***172 Millspring Rd.***
***Manhasset, N.Y. 11030***

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**
***A. Mickievic***
***90-16 54th Ave***
***Elmhurst, NY 11373***

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 13-га КРАСАВІКА 2002 ГОДУ Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

# ВАНДРОЎКА Ў SALT LAKE CITY



Паездка на Алімпіяду была маёй запаветнай марай. Хто ведае, калі яшчэ выпадзе такая магчымасьць. Аднаму ехаць, вядома-ж, дорага і небясьпечна, ды й ня так цікава. Як апынулася, мае сябры таксама былі ня супраць пахварэць за беларусаў ды паглядзець Амэрыку. Назьбіралася нас чацьвёра падарожнікаў, парамантавалі сваю старэнькую машыну ды выправіліся ў дарогу. А яна мелася быць доўгай. Выехалі мы з паўднёвай Флёрыды, горада West Palm Beach. Квіткі на спаборніцтвы папярэдне набылі па інтэрнэце. Балазе, пачалі займацца ўсім загадзя, бо ўжо за месяц да адкрыцьця гульняў квіткоў было не дакупіцца. Вядома-ж, першымі зьніклі квіткі на адкрыцьцё і закрыцьцё гульняў, а таксама на фінальныя і паўфінальныя спаборніцтвы. На гакей усяго было дзьве коштавыя катэгорыі квіткоў: па $50 і $100, хутчэй раскупляліся таньнейшыя.

Нязвыкла было ехаць праз халодныя штаты Сярэдняга Захаду пасьля цёплай Флёрыды. Прыпынкі ў прыдарожных матэлях і месцах хуткага харчаваньня крыху аздаблялі доўгія гадзіны язды. Як мы й думалі, усе гатэлі ў горадзе Салёнага возера былі перапоўненыя, таму мы спыніліся за пару гадзінаў язды, у штаце Вайёмінг. Юта належным чынам падрыхтавалася да Алімпійскіх гульняў: горад упрыгожвалі вялізныя палотнішчы з малюнкамі на алімпійскую тэматыку, іх бачна было паўсюдна. Намаляваныя лыжнікі аглядалі горад са сьценаў гмахаў. Беларусы папрыяжджалі на Алімпіяду з розных штатаў ЗША, перш за ўсё з тых, што недалёка ад Юты. Так ужо на гакеі мы пазнаёміліся зь беларускай групай падтрымкі, знайшліся агульныя знаёмыя, як гэта звычайна бывае...

Мы мелі квіткі на гакейную гульню Беларусь-Швайцарыя, і там ужо галасоў не шкадавалі. Служба аховы лядовай арэны стамілася змагацца зь беларускімі заўзятарамі. Нягледзячы на ўсе іх папярэджаньні й пагрозы беларусы не сядалі, махалі сьцягамі, ускоквалі пры кожнай атацы нашых. Якія-ж сьцягі папрыносілі? Адзін дык аж чацьвёра трымалі! Нажаль, колеры пераважалі ўсё больш чырвона-зялёныя, хаця было яшчэ некалькі бел-чырвона-белых сьцягоў, акрамя тых двух, што прынеслі мы. А трапілі яны да нас амаль выпадкова. Зайшлі мы перад матчам у краму, дзе прадаваліся сьцягі ўсіх краінаў сьвету, быў там і беларускі, але дзяржаўны, так званы "сутоньне над балотам". Пахадзілі, прыгледзяліся, тут вазьмі я і запытайся, ці ёсць у іх бел-чырвона-белыя, ды яшчэ і ўзор паказаў. А мне ў адказ:"Дык гэта-ж стары беларускі сьцяг! – кажа гандляр – а мы хацелі іх пазбавіцца!" І паказаў на скрыню на падлозе. У перапынках гульні камандаў прадавалася піва, яго можна было браць з сабою на трыбуны. Нашыя месцы былі далёка, пад самою стольлю, адтуль мы-б наўрад ці што ўбачылі. Ды беларусы падказалі, маўляў, хадзеце з намі, усё роўна самыя дарагія месцы пуставаць будуць, ды й не правярае ніхто... Пасьля ўжо зь Беларусі прыйшлі лісты, кажуць бацькі, што бачылі нас на гульні. Жыхарам Юты квіткі на спаборніцтвы прадавалі са зьніжкаю. Дзіўна было бачыць, як прыводзілі на гакей групу дзяцей ды раздавалі ім сьцяжкі на выбар беларускія альбо швайцарскія... А ў нас амэрыканцы ўвесь час пыталіся, як разумець тое, што ў Беларусі два розныя сьцягі...






Пасля гульні са Швайцарыяй нашая машына не завялася, і мы на ноч вымушаныя былі застацца ў горадзе Салёнага возера. Дзякуй Богу, гэта не здарылася дзенебудзь у горах і халадэчы адкуль нават патэлефанаваць немагчыма... А на наступны дзень мы паехалі далей, паглядзелі Каліфорнію, адведалі сяброў у Сакрамэнта і Сан Дыега ды праз колькі дзён былі дома ў Флёрыдзе.

*Дрэй*

*Працяг з бач. 5*

Расейцы добра бачаць лукашэнкаву лёгіку й рэторыку ў пытаньнях гэтак званай "інтэграцыі", калі словы й справы істотна адрозьніваюцца, а пад шум размоваў пра саюзы рэжым у Беларусі качае сабе з Расеі таннае паліва. Напэўна, гэтае "інтэграцыйнае танго" расейцы даўно-б спынілі, каб не ваенны блёк і не спадзеў на захаваньне ў нас свайго стратэгічнага плацдарму."

"Незалежнасьць, як відаць – факт незваротны, і гэта разумее самы зацяты масквафіл або камуніст. Складаней сытуацыя зь беларускай культурай, і асабліва, зь беларускай мовай. За гады кіраваньня Лукашэнкі шмат паламана і зруйнавана, і гэтае руйнаваньне працягваецца. Ліквідуюцца беларускія школы й клясы, дзяржаўная падтрымка беларускай мовы стала зьмяншаецца, і, дзякуючы анты-беларускім намаганьням дзяржаўных масавых сродкаў, прэстыж беларускай мовы заганяны ў самы ніз. Але намаганьні людзей, нават асобна ўзятага чалавека, могуць рабіць справу". Нажаль, нашая апазыцыя ня вельмі гатовая да такой працы. Таму я, часам, лічу, што знаходжуся ў падвоенай апазыцыі – і да сёньняшняй улады ў Беларусі, і да некаторых апазыцыйных дзеячоў. Дзе праца ад хаты да хаты, дзе сур'ёзныя спробы давесьці свае думкі, пагляды, праграмы да максымальнай колькасьці людзей? Скажам мы, у "Народнай Волі", спрабуем рабіць справу на поўніцу, каб даць людзям як найболей інфармацыі пра падзеі ў Беларусі. І ўлады ацанілі гэта – на газэту заведзеныя дзьве крымінальныя справы, адна за тое, што надрукавалі заяву-зварот кіраўнікоў шырокай грамадзянскай кааліцыі, другая – за артыкул пра гандаль зброяй рэжыму Лукашэнкі з краінамі-парыямі. Але я думаю, што "Народная Воля" будзе жыць. Тыраж яе сёньня 37 тысяч, часамі 40-42 тысячы, а сьпэцвыпускі дасягаюць 200-400 тысяч. І мы будзем далей змагацца з рэжымам зброяй праўды, праз факты й разаблачэньні. Другая нашая задача — гэта асьветная праца. Пазьняк піша нам з Варшавы, з задавальненьнем друкуем іягоныя артыкулы. Калі мы возьмемся з усіх бакоў, усе разам, то пераможам."

Затым да прысутных зьвярнуўся рэдактар газэты "Пагоня" сп. Мікола Маркевіч. "Прывітаньне з Горадні! Я не такі аптыміст, як сп. Сярэдзіч, і лічу што ёсьць доля праўды ў лукашэнкавым вар'яцкім выказваньні: "Жыць беларусы будуць цяжка, але ня доўга". Пару год нас ужо меней за 10 мільёнаў, і бульба ў гэтым годзе не ўрадзіла, і па рэйтынгу Сусьветнага Банку Беларусь займае па эканамічна-фінансавых паказчыках 144-е месца ў сьвеце. Інфляцыя цяпер складае 46%, пенсіі каля 10 даляраў. Сяржант міліцыі зарабляе больш за настаўніка. У лістападзе 2001-га году ўлады зачынілі газэту "Пагоня", скарыстаўшы, як прычыну, публікацыю ў жніўні артыкулу "Ідзем на выбары". Цікава, што крымінальная справа была заведзеная яшчэ тады, калі нумар нават ня выйшаў. Арыштаваны наклад, "выемку" накладу правёў сьледчы пракуратуры Альфрэд Танкевіч. Арыштавалі таксама 3 тоны паперы й грошы, пераведзеныя ў друкарню. Пачаліся допыты супрацоўнікаў рэдакцыі, і пачынаўліся з пытаньняў, не зьвязаных з публікацыяй. Усё гэта – клясычная схема падаўленьня іншадумства. Калі ад'яжджаў у ЗША "органы" фільмавалі на відэа. Дома чакае чарговая позва на допыт да сьледчага. Цягаюць таксама намесьніка рэдактара П. Мажэйку. Справа заведзеная па артыкулу "Паклёп на прэзыдэнта РБ". Сьледчы цэлы час цісьне на жонку: "Дайце паказаньні". Пасьля 12-га лістапада, калі суддзя Жандараў (сымбалічнае імя!) вырашыў зачыніць газэту, і пра гэта стала вядома у сеціве, дык сталі прыходзіць шматлікія лісты падтрымкі з розных краінаў, нават зь Зімбабвэ. Наагул, праблемаў хапае. Але разам з тым, я ўпэўнены, калі возьмемся разам, то з нашага краю можна зрабіць прыгожую эўрапэйскую краіну."

Затым сп.сп. Сярэдзіч і Маркевіч адказалі на пытаньні прысутных. Сп. Маркевіч на пытаньне пра выдаткі адзначыў, што кожны месяц 450 даляраў ідзе на ўтрыманьне рэдакцарскага бюро. Газэта, напэўна, пачне пры спрыяльных абставінах выходзіць праз некалькі тыдняў, як не – можа праз пару месяцаў, але будзе. Галоўнае цяпер – утрымаць калектыў, бо людзям трэба карміць сем'і. Сп. А. Шукелаць выказаў сваю думку пра ролю Амэрыкі й Заходняй Эўропы ў падтрымцы змаганьня супраць рэжыму Лукашэнкі й пра істотную розьніцу ў іхных падыходах. Далей размова зайшла пра лідэра, які найбольш падыходзіць, каб ачоліць апазыцыю. Сп. Сярэдзіч адзначыў сваю падтрымку Зянона Пазьняка, але заўважыў, што далёка ня ўсе гатовыя пагадзіцца на тое, каб ён стаў лідэрам усёй апазыцыі рэжыму. М. Статкевіч – своекарысьлівы й няздольны да супрацоўніцтва, С. Домаш – без ініцыятывы, згубіў рэпутацыю саступкай кандыдацтва Ганчарыку, які таксама мае малую падтрымку пасьля выбараў. Сп. Маркевіч адзначыў, што на сёньня лідара няма, і ён нават не праглядаецца сярод вядомых палітыкаў. Але расьце новае пакаленьне і, безумоўна, жыцьцё высуне новых лідараў. Далей гутарка зайшла пра беларускую мову, пра адукацыю на беларускай мове. Сп. Маркевіч адзначыў, што пры Лукашэнку беларуская мова ня мае ніякіх перспэктываў. У Горадні сем гадоў таму 70% школаў былі беларускамоўныя, сёньня – ніводнай. Каб аддаць дзіця ў беларускую клясу ў Беларусі, трэба хадзіць абіваць парогі. Сп. Сярэдзіч дадаў, што ад кожнага залежыць змагацца прыватным парадкам, патрабаваць, яднацца ў бацькоўскія камітэты.

Потым госьці закранулі пытаньне выбараў у, так званы, "саюзны" парлямант. Сп. Маркевіч заўважыў, што галоўная навука зь мінулых выбараў і нагул з апошніх гадоў – гэта ўдзельнічаць ва ўсіх выбарах, дасканаліць палітычныя здольнасьці асобаў і партыяў, прайграе той, хто не змагаецца. Сп. Сярэдзіч не пагадзіўся, заўважыўшы, што ў "саюзным парляманце" дэпутаты могуць сваімі рукамі выкапаць яму для беларускай незалежнасьці. Прамоўцы спыніліся на асобах прадстаўніка АБСЭ ў Беларусі Г.Віка, М. Статкевіча, на будучыні Лукашэнкі, адказалі на іншыя пытаньні прысутных.

*Віталь Зайка*

# ВІЛЬНЯ – ЯК ЦЭНТАР БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ




**Алесь Пашкевіч.**
***ЗВАРОТНЫЯ ДАРОГІ. ПРОЗА БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ ХХ СТАГОДЗЬДЗЯ.***
***Беласток: "Беларускае літаратурнае аб'яднанне", 2001. – 238 с.***

Неяк у "Нашай Ніве" таямнічы Васіль Брыкун, рэцэнзуючы адну кнігу, напісаў, што жанчына здольная зрабіць з падручніка па арганічнай хіміі найцікавейшае чытво. Хочацца адказаць антыфэміністу сп. Брыкуну, што нашыя мужчыны таксама ня лыкам шытыя і здольныя зрабіць, напісаць такое, што бязь сьлёз чытаць нельга. Не пасьпеў прадацца "гістарычны" раман Алеся Пашкевіча "Пляц волі", як аўтар парадаваў нас новым творам, на гэты раз дасьледаваньнем беларускай эміграцыйнай прозы.

Сп. Пашкевіч нават падлічыў у адсотках колькасьць эміграцыйнай літаратуры ў выніках апытаньня "Нашай Нівы" "Сто беларускіх кніг 20 ст.": *"Так, паводле апытаньня газеты "Наша ніва" "Сто беларускіх кніг ХХ стагоддзя" лепшымі сталі 18 выдадзеных (створаных) на эміграцыі (18%) і 29 кніг паэзіі і прозы, якія выйшлі за межамі сённяшняй Рэспублікі Беларусь (29%)" (с.8).* Сапраўды, ніхто да аўтара ня мог правільна разьлічыць працэнт ад ста!

Адчуваецца, што гісторыя – "слабое зьвяно" сп. Пашкевіча, як і геаграфія. *"Адной зь першых мусіла (напрыканцы 1905 г.) пакінуць Радзіму А. Пашкевіч (Цётка) – і доўгіх 6 гадоў пражыць на эміграцыі (пасля ўдзелу ў рэвалюцыйных маніфэстацыях выехала, каб пазбегнуць арышту, у Галіцыю, якая была часткай Аўстра-Венгерскай імперыі, затым жыла ў Львове...") (с. 13).* Да ведама, Львоў – гэта і ёсьць Галіцыя. Цікава, што крыху далей аўтар пазначае: *"Расійская царская дзяржава аслабела і распалася пазней Аўстрыйскай, і таму яе народы (у прыватнасці, беларускі) паўставалі да нацыянальнага жыцьця амаль на паўстагодзьдзя пазней)"* (С.53) Калі Аўстрыйская імпэрыя скончыла існаваньне ў кастрычніку 1918-га г., то калі тады распалася Расейская імпэрыя?

Такі-ж "гістарызм" уласьцівы разьдзелу і пра Вацлава Ластоўскага. *"Не зважаючы на неспрыяльныя палітычныя і фінансавыя ўмовы для сваёй дзейнасьці, урад Ластоўскага дасягнуў адчувальных посьпехаў. Пра Беларусь загаварылі ў Еўропе. Прэм'ер у 1920-1923 гг. з дыпламатычнымі місіямі наведаў Бельгію, Нямеччыну, Ватыкан, Італію, Францыю, Швейцарыю. Вядомым стаў і сам Ластоўскі. Толькі адзін шматпаказальны факт: да В. Ластоўскага як да старшыні рады міністраў БНР слаў афіцыйныя лісты Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Ціхан" (с.56-57).* Дазволю тут сабе некалькі рэмарак. Па-першае, у пачатку 20-х гг. Ватыкана яшчэ не было на мапе сьвету. Ён зьявіўся ў 1929-м г. у выніку Лятэранскіх пагадненьняў. Пра фінансавыя цяжкасьці таксама можна было-б паспрачацца, бо літоўцы як і немцы ў пачатку 20-х гг. шчодра фінансавалі Раду БНР і БНР-аўскую партызанку, асабліва апошняя падрывала спакой Польшчы, а Ластоўскі быў адным з атрымальнікаў "грантаў". Ніводная зь пераліччаных краінаў не прызнала БНР у якасьці самастойнага суб'екта, і дзейнасьць Ластоўскага была хутчэй дэкаратыўнай. Абазнанасьць Ціхана была рэакцыяй на зварот да яго Рады БНР з просьбай пасадзейнічаць самастойнасьці Беларускай праваслаўнай царквы.

"Зваротныя шляхі" мусяць стаць чымсьці новым і для беларускай гісторыі ды літаратуразнаўства. Паводле аўтара, адным з галоўных эміграцыйных асяродкаў беларусаў у 10-30-ыя гады ёсьць... **Вільня** (с.14-18). Бо *"апынулася па-за беларускай дзяржаўнай мяжой"* (с. 15). Але ў такім выпадку, эмігрантамі можна назваць тагачасных жыхароў Маладэчна, Навагрудку, Гародні, Пінску! Таксама, паводле аўтара, эміграцыйным цэнтрам для Беларусі стала ў 10-30-ыя гады Варшава. Але ці можна называць эмігранцкім асяродкам тагачасную сталіцу дзяржавы? І чаму ў такім выпадку эміграцыя Ю. Віцьбіча пачынаецца ад 1920 г., часу выезду ў Маскву? А якую працу можна напісаць пра паэта-эмігранта Уладзімера Дубоўку?

Калі кіравацца такой лёгікі, то дарма аўтар адвёў цэлы разьдзел пісьменьніку Віктару Вальтару. Ён нарадзіўся ў Дзьвінску (Латвія), быў у бежанстве, вучыўся ў Харкаве, у 20-х гг. вучыўся ў Пражскай палітэхніцы. Што тут эміграцыя? Нараджэньне ў Латгаліі наўрад ці. Бо радзіма – гэта не эміграцыя. Таксама як і вучоба за мяжою.

Маленькім шэдэўрам падаюцца біяграфічныя зьвесткі з жыцьця Антона Адамовіча (с. 225). Напачатку цытата: *"Пасля вызвалення ў 1938 г. застаўся ў акупаваным Менску, затым выехаў на Захад"*. Ці то немцы як ўвайшлі ў Менск у 1918-м г., так яго і да 1941-га г. зь яго не выходзілі, ці аўтар мае на ўвазе савецкую акупацыю Беларусі? У такім выпадку вельмі сьмела.

Асобны разьдзел аўтар прысьвячае Юрку Віцьбічу (с.100-123). Напісаны разьдзел у лепшых традыцыях савецкай крытыкі белбурнацаў, працягваючы тым самым традыцыю Леаніда Прокшы ды Алеся Бажко. Чорных фарбаў тут хапае. Віцьбіч і ня здолеў узвысіцца над заддадзенасьцю, не адмежаваўся ад камуна-бальшавіцкіх пастулятаў, і *"якграмадзянін не быў псіхічна моцным чалавекам"*. На падставе якога мэдычнага заключэньня зроблены апошнія высновы? Ці наступнае: *"З міфічнасці-мройнасці ён пераходзіў у спекулятыўнасць, рабіўся парадксальным, непрадказальным (у апошнія гады пачаў пісаць па-руску і супрацоўнічаць з рускімі эміграцыйнымі выданьнямі)"* (с.121-122). Напэўна, горшага злачынства для беларускага пісьменьніка–эмігранта як супрацоўніцтва з "Новым Русским Словом" прыдумаць цяжка. І апошні цьвік у труну пісьменьніка-рэнегата. *"У часе акупацыі Ю. Віцьбіч жыў у Менску на кватэры ў бацькоў жонкі Пятра Глебкі – Ніны Ларывонаўны. Тая ўспаміналала, што Ю. Віцьбіч тады шмат піў. Калі не было за што – краў кнігі і прадаваў".* (с.102). Прачытаўшы апошнія радкі, я аж затрымцеў ад шчасьця, нарэшце, знайшліся ўспаміны Ніны Глебкі (яна падчас акупацыі не паехала за мужам Пятром Глебкам, а засталася ў Менску і працавала ў нацыянальных арганізацыях). Але спасылка расчаравала: *Гл. гутарку М.Сяднёва і Б.Сачанкі "Я толькі кропля ў акіяне" // Сачанка Б. Трэцяе вока. – Мн., 1992. – С. 467.*

Гісторыя цераз трэція вусны не цытуецца, гісторыя любіць цытаты зь першакрыніцаў. І ці варта верыць Сяднёву, які ў Менску падчас акупацыі ня жыў, затое, на эміграцыі моцна не любіў Віцьбіча.

Цікавы разьдзел "Мемуарна-аўтабіяграфічная проза беларускай эміграцыі". Аўтар зьлёгку бэсьціць дасьледчыка зь Нью Ёрку Лявона Юрэвіча, мауляў, ня ўсё ўключыў у кнігу "Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі" (Нью Ёрк, 1999). І ў якасьці пацьверджаньня цікавых эміграцыйных успамінаў прыводзіць мэмуарна-аўтабіяграфічную аповесьць Алеся Салаўя *"Пада нагамі гарыць зямля"*. (с.129). Але на наступнай старонцы аўтар пазначае, што невядома, ці надрукаваная аповесьць, засталіся адно сьведчаньні пісьменьнікавай жонкі Зінаіды Кадняк. Крытыкуючы Юрэвіча, аўтар чамусьці пакідае па-за ўвагай успаміны Барыса Рагулі "Жыцьцё пад агнём" (Менск, 1999), Язэпа Малецкага "Пад знакам Пагоні" (Таронта, 1976), ці сёстраў Вэранікі й Анэлі Катковічаў "Успаміны" (Беласток, 1999). Але што робіць ў эміграцыйнай мэмуарыстыцы ўспаміны Аляксандра Ўласава "Дні жыцьця", таго, што заснаваў "НН". Няўжо Мігаўка пад Радашковічамі таксама эміграцыя?

Аўтар называе эміграцыйным пісьменьнікам першай паловы 40-х гг. Рыгора Мурашку (с. 234). Мурашка ні аднаго дня не прабыў за мяжой у 20-30-х, а падчас нямецкай акупацыі быў удзельнікам менскага камуністычнага падпольля. Магчыма, аўтар пад эміграцыяй мае выхад зь Менску ў савецкую партызанку, у якой Мурашка і загінуў у красавіку 1944-га г. на Лагойшчыне пры спробе прарыву нямецкай блякады.

Пытаньні, пытаньні, пытаньні ставіць кніга "Зваротная шляхі", адказ на якія знайсьці цяжка.

***Эдвард Людовіч***

---

ЗАПІСЫ

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

ZAPISY 25

2001

Выйшаў чарговы 25-ы нумар "Запісаў" БІНіМ. Гэтым разам на Бацькаўшчыне, у Менску. Зьмест 25-га нумару "Запісаў": Галіна Сяргеева "Беларуская дыяспара ў нацыянальнай гістарыяграфіі ХХ стагодзьдзя", Ян Максімюк "Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны", Alexander Nadson "The Belarusan Greek Catholic (Uniate) Church", Генадзь Сагановіч "Вітаўт Тумаш як гісторык", Настасься Гулак "Славянафіл думае пра Беларусь", Уладзімер Мальцаў "БДТ-2 у тэатральных дыскусіях 1927-1928-х гадоў", Ванкарэм Нікіфаровіч "Пясьняр волі й хараства: Згадваючы Ўладзімера Дубоўку", Юрась Гарбінскі "3 эпісталярнае спадчыны Ўладзімера Самойлы", Андрій Даниленко, Лев Чабан "Юрій Шевельов як дослідник українсько-білоруських взаємин", Зьміцер Саўка "Стараславянска-беларускі слоўнік. Праект. Літара В", Кветка Вітан "Зацемкі аб будаўляным мастацтве гораду Вільні",




Уладзімер Глыбінны "Тэстамэнт. Апавяданьне". Апрача таго ў нумары шэраг цікавых рэцэнзіяў на кнігі: "Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ стагодзьдзя" (Ларыса Языковіч), Л.Савёнка "Беларусізацыя пад №..." (Лідзія Савік), Л.Юрэвіча "Беларуская мэмуарыстка на эміграцыі" (Аляксей Рагуля) ды інш. Пры канцы "Запісаў" - традыцыйная "Хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы (1998-2000)".

***Пачытаць "Запісы БІНіМ" можна ў Сусьветным сеціве, адрас наступны: zapisy.cjb.net***

7-га лютага 2002-га году выйшаў чацьверты нумар часапіса "Спадчына" за 2001-ы год. Выхад нумару прымеркаваны да 50-годзьдзя з дня заснаваньня найбольшае эміграцыйнае навуковае ўстановы акадэмічнага тыпу - Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Падрабязны артыкул пра дзейнасьць БІНіМ напісала Анфіса Ляднёва. Апрача таго, "Спадчына" друкуе працы некаторых сябраў БІНіМ: Лявона Юрэвіча, Антона Адамовіча ды інш.

У рубрыцы "Гісторыя й мы" публікуецца "Споведзь нацыяналіста" ведамага эміграцыйнага дзеяча, маёра Беларускае Краёвае Абароны Ўладзімера Шнэка. Тут-жа друкуецца і ўнікальны альбом уніформы й азнакаў БКА, выдадзены сп. Шнэкам у 1984-м годзе.




Матэрыялы пра Ўладзімера Шнэка, варта зацеміць, аздобленыя надзвычай цікавымі фатаздымкамі з жыцьця Менску апошніх дзён перад вяртаньнем у горад бальшавікоў у 1944-м годзе. З фатаздымкаў пазіраюць шчырыя сыны й дочкі свайго народу - сябры Саюзу Беларускае Моладзі й ваяры Беларускае Краёвае Абароны.

## МЕРКАВАНЬНІ ПРА АДНАЎЛЕНУЮ ГАЗЭТУ "БЕЛАРУС"

Цешымся, што газэта "Беларус" ізноў пабачыць Божы сьвет і паслужыць плённа на доўгія гады беларускай справе. Калі спынілася выдавецтва "Беларуса" мы пачуліся ізаляваныя, як быццам адзінокія, быццам перарвалася сувязь паміж асяродкамі. Газэта была ня толькі інфармацыйным жоралам, але і псыхалягічным злучвом. Мы цешыліся, калі чыталі аб пазытыўнай дзейнасьці асяродкаў, аб іх плянах, замерах, посьпехах. І гэта давала імпульс да актыўнасьці.

Папера газэты павінна быць агульнапрынятай якасьці, друк павінен быць выразным і шрыфты незамалыя для вока.

Інфармаваць пра падзеі ў асяродках па магчымасьці ў кароткім памеры. Наступна кароткія весткі зь Беларусі, а затым артыкулы на палітычна-грамадзкія, эканамічныя, культурныя, гістарычныя ды іншыя тэмы. Яны павінны быць незадоўгія, прэцэзыйныя, унікаць паўтарэньняў і шаблёну. У палеміцы эвэнтуальна пазьбягаць вастраты слоў. Выказваць джэнтэльмэнскі рэспэкт да апанэнта. Кароткія й цікавыя вершы могуць знайсьці месца ў газэце, але не апавяданьні, хіба кароткія і вельмі цікавыя. Не ўжываць русіцызмаў, прыкладам, "даваць урокі", бо "ўрокі" маюць зусім іншы сэнс у беларускай мове, а таксама і палянізмаў, прыкладам, "апантаны" й г. д.

Жадаю сп. рэдактару, ды ўсім супрацоўнікам рэдакцыі памыснай і плённай працы ў выдавецтве.

**Вітаўт РАМУК**

## "БЕЛАРУС" ІЗНОЎ ПАТРЭБЕН

У Беларусі выдаецца вялікая колькасьць газэтаў, часапісаў і кніжак. Здавалася-б, у такой лічнай прысутнасьці друку нацыянальная самасьвядомасьць беларусаў мусіла-б усё павышацца. Аднак рэчаіснасьць ёсьць іншая, бо 70% усіх выданьняў задавальняецца сьведама ці нясьведама цяперашнім курсам Беларусі. Гэтая большасьць прэсы спрыяе таксама саюзу з Расеяй. Паводле такое прэсы ў Беларусі няма ніякіх праблемаў – яна раўняецца зь іншымі краінамі Эўропы, ідзе наперад тэхналёгія, пашыраецца гандаль, высока стаіць школьніцтва й культура. Безупыннае маляваньне Беларусі ў ружовых колерах, усебаковая падтрымка прэсы дзяржавай ці, сказаць больш трапна, падкупліваньне вельмі нэгатыўна ўплывае на нацыянальную самасьведамасьць. Хоць-бы нават з таго факту, што 70% інфармацыйных сродкаў з усялякай хлусьнёй абрушваецца на насельніцтва Беларусі.

Паралельна з наступам прадзяржаўнае прэсавае хлусьні, улады перасьледуюць і абмяжоўваюць беларускую адраджэнскую прэсу і рух праз зачыненьні, канфіскацыі, цяганьне па судах і турмах. Ня грэбуюць таксама й нападамі на рэдакцыі адраджэнскіх выданьняў й грабяжу друкарскай тэхнікі.

Адраджэнцам нічога больш не застаецца, як супрацьставіцца й абараняцца перад гэтымі "шавіністычнымі" наступамі на нас беларусаў.

Жывучы ў Амэрыцы, дзе людзі карыстаюцца поўнай свабодай, мы, амэрыканскія беларусы, маем усе магчымасьці супрацьставіцца гэтым цёмным сілам на Бацькаўшчыне. Узноўлены выхад "Беларуса" ёсьць як раз па часе. Ён павінен быць своеасаблівым, вельмі арыгінальным, нацыянальна-адраджэнскім і прабэнэраўскім па характару. "Беларуса" з такім абліччам суродзічы замежжа напэўна забясьпечаць фінансамі.

**С. С.**

## ПРА ГАЗЭТУ "БЕЛАРУС" І ЗЬМЕНУ ПАКАЛЕНЬНЯЎ

Атрымаўшы інфармацыю адразу ад Марата Клакоцкага, а потым прачытаўшы зварот у "Вестках" некалькі дзён хадзіў шчасьлівы й горды. Здаецца, што тут такога — ну аднавіўся выхад газэты "Беларус" у сьвет. Але для мяне гэта ёсьць знакавая падзея. Значыць, мы можам пераняць справу нашых дзеячоў пасьляваеннае эміграцыі й працягваць выданьне газэты.

Усе, каму гэта абыходзіла, ведаюць, якая гэта скамплікаваная справа. Ёсьць у нашай апошняй хвалі эміграцыі праграмісты, лекары, навукоўцы, маракі, будаўнікі, а вось прафэсыйных рэдактараў не было. Дый зараз няма, таму людзі, якія бяруцца за гэтую працу выклікаюць у мяне пачуцьцё вялікае павагі.

Вельмі хацелася-б, каб ранейшыя выдаўцы газэты больш дапамагалі новай рэдкацыі, бо напачатку новае справы могуць быць і памылкі, і пралікі, і недахопы, прычынай якіх зьяўляецца адсутнасьць досьведу. Самым лепшым варыянтам было-б, каб пэўны час старая рэдакцыя "Беларуса" працавала побач з новай, і такім чынам адбылася перадача досьведу. Спадзяюся, што так яно і будзе.

А самой рэдакцыі хочацца пажадаць, каб газэта стала ня толькі люстэркам жыцьця беларускае дыяспары й сапраўдным культурным цэнтрам, але і дыскусыйнай трыбунай. Ну й, вядома, жадаю сябрам рэдакцыі добрага здароў'я і плённай працы.

А ўсіх чытачоў газэты, усіх беларускіх эмігрантаў хачу заклікаць, каб ня былі скнырамі й сваімі ахвяраваньнямі падтрымалі газэту.

**Раман КАРДОНСКІ**

# Шукаем адказных асобаў,

**якія жывуць замяжою (акрамя Беларусі) і хацелі-б распаўсюджваць нашую газэту ў сваіх краінах.**

***Пра ўмовы супрацоўніцтва можаце даведацца ў рэдакцыі.***









## радыё Свабода

новы расклад лістапад 2001 - сакавік 2002

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 18:00-20:00 | kHz / хвалі | 7190 / 41 | 9615 / 31 | 15460 / 19 |
| 20:00-22:00 | kHz / хвалі | 6150 / 49 | 7280 / 41 | 9835 / 31 |
| 22:00-24:00 | kHz / хвалі | 6010 / 49 | 6170 / 49 | 9845 / 31 |
| 06:00-08:00 | kHz / хвалі | 6140 / 49 | 9635 / 31 | 9835 / 31 |

сярэднія хвалі – 612 і 1188 kHz



## Завершана праца

над "Творамі" Антона Адамовіча, чарговым томам зь БІНІМаўскай серыіі "Паэты й пісьменьнікі эміграцыі". 800 бачынкавы том, ілюстраваны ўнікальнымі здымкамі, днямі йдзе ў друк.

***Замовы на кнігу і ахвяраваньні дасылайце на адрас газэты "БЕЛАРУС".***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпель | 200 |
| Л. Шурак | 150 |
| Я. Запруднік | 100 |
| В. Кажан | 100 |
| А. Орса-Романо | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| А. Шукелойць | 50 |
| С. Казачэнка | 25 |
| С. Янкоўскі | 25 |
| Р. Кардонскі | 25 |
| П. Грыгальчык (анг. фунт.) | 10 |

*Шчыры дзякуй!*

## *Газэта "Беларус"*

*надрукуе бясплатна кароткія прыватныя абвесткі некамэрцыйнага характару. Таксама зьмесьцім вашыя віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншыя сямейныя абвесткі.*

*Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*


**БЕЛАРУС**

***Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце***

***Выдае штомесячна:***
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
***Падпіска $30 на год.***

**BIELARUS**

***Belarusan Newspaper in the Free World***

***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***

***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Тэхнічны рэдактар*
***Мікола Шыдлоўскі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***





**Адрас для допісаў:**
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Рэклямная служба:**
тэл./факс (718) 206-3545


***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***